## ДАТЫ І ПАДЗЕІ Ў ЛЮТЫМ

**1 лютага**. 75 гадоў з дня выхаду першага нумара газеты «Савецкая Беларусь» (на беларускай мове апошні нумар выйшаў 21 сакавіка 1933 г.).

**2 лютага**. 90 гадоў з часу заснавання (1905) у в.Астрамечава Брэсцкага раёна бібліятэкі імя Ф.Ф.Паўленкава, адной з першых на Беларусі бясплатных народных бібліятэк.

**3 лютага**. 605 гадоў назад (1390) г.Брэст атрымаў магдэбургскае права.

**4 лютага**. 480 гадоў з дня нараджэння Мікалая Чорнага Радзівіла (1515—1565), дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, старасты брэсцкага, ковенскага, барысаўскага, лютэраніна, з 1555 г. кальвініста, што выдаў на свой кошт Брэсцкую Біблію (1563); пры ім Нясвіж стаў цэнтрам кальвінізму ў Вялікім Княстве Літоўскім.

115 гадоў з дня нараджэння К.В.Квіткі (1880—1953), музыказнаўца-фалькларыста, збіральніка і даследчыка беларускіх народных песень.

**6 лютага**. Каля 530 гадоў назад нарадзіўся К.І.Астрожскі (каля 1460—1530); гетман Вялікага Княства Літоўскага, кашталян віленскі, ваявода трокскі, які ў вайне з крымскімі татарамі перамог больш як у 60 баях, у баі пад Оршай у 1514 г. перамог рускія войскі.

**7 лютага**. 70 гадоў з дня нараджэння А.С.Фядосіка, беларускага фалькларыста, доктара філалагічных навук.

**9 лютага**. 700 гадоў назад (1295) крыжакі напалі на Гродзенскую зямлю.

**10 лютага**. Каля 865 гадоў назад нарадзіўся Кірыла Тураўскі (каля 1130—каля 1182), выдатны дзеяч усходнеславянскай культуры — славуты пісьменнік-прапаведнік, царкоўны дзеяч, майстар аратарскай прозы.

**12 лютага**. 85 гадоў з дня (1810) першай беларускай вечарынкі ў Вільні.

**13 лютага**. 290 гадоў з дня нараджэння Ф.У.Радзівіл (1705—1735), польскай пісьменніцы, стваральніцы нясвіжскага прыдворнага тэатра.

**16 лютага**. 70 гадоў з дня нараджэння І.Я.Навуменкі, беларускага пісьменніка і літаратуразнаўца, акадэміка АН Беларусі.

70 гадоў з дня заснавання ў Менску Цэнтральнай бібліятэкі АН Беларусі.

**22 лютага**. 90 гадоў з дня нараджэння М.А.Аляхновіча (1905—1982); польскага мовазнаўца, даследчыка беларускай мовы і фалькларыстыкі.

**23 лютага**. 20 гадоў з дня адкрыцця ў Касцюковічах краязнаўчага музея.

**24 лютага**. 60 гадоў з дня нараджэння Р.І.Барадуліна, народнага паэта Беларусі.

**26 лютага**. 495 гадоў назад (1500) г.Браслаў атрымаў магдэбургскае права.

**27 лютага**. 60 гадоў з дня нараджэння Ф.Д.Клімчука, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук.

*Меркаванні*

## Пра годнасць і гонар

***Годнасць — найбольш высокая якасць чалавека, асобы, а таксама ўсведамленне гэтай якасці. Сваімі сумленнасцю, дабрадзейнасцю і дабрачыннасцю чалавек стварае ўласную асабістую годнасць сярод іншых. У сваю чаргу аб'яднаныя ў людскія супольнасці нацыянальныя дзяржавы фарміруюць годнасць усёй нацыі, якая павінна захоўвацца і множыцца наступнымі пакаленнямі.***

***Гонар — гэта грамадзянская або маральная годнасць, тое, што выклікае агульную павагу. Гонар нацыі — гэта сукупнасць матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, створаных народам на этнічнай тэрыторыі пэўнай нацыянальнай дзяржавы. Маральны гонар нацыі павінен грунтавацца на павазе да іншых народаў. Нацыянальная фанабэрыстасць, прапаганда нацыянальнай выключнасці і перавагі не даюць сапраўднага гонару нацыі, якая адкрыта заяўляе аб сваёй «асаблівай гістарычнай місіі».***

У мінулым стагоддзі К.Маркс і Ф.Энгельс убачылі, што «прывід блукае па Еўропе, прывід камунізму». У сваім катэхізісе — «Камуністычным маніфесце» яны распрацавалі маршрут трыумфальнага шэсця «прывіду» не толькі па Еўропе, а і па ўсёй планеце. Місію па расчыстцы шляху для «прывіду» яны ўсклалі на пралетарыят. Але ж у апошняга ў адпаведнасці з вядомымі пастулатамі няма сваёй бацькаўшчыны, яго бацькаўшчына — увесь свет. Таму, маўляў, пралетарыят павінен руйнаваць нацыянальныя рамкі, разбураць нацыянальны гонар і нацыянальную годнасць, усталёўваючы новую, «пралетарскую годнасць», якая грунтуецца на... пралетарскай дыктатуры, а дакладней — на гвалце і насіллі...

Ажыццяўляць палажэнні «Маніфеста» пазней узяліся расійскія бальшавікі. Але, разбурыўшы «турму народаў» — Расійскую імперыю, яны пачалі будаваць новую, чырвоную турму, дзе бязлітасна, па-дзікунску ганьбавалі нацыянальны гонар, нацыянальную годнасць былых падняволеных нацый і народнасцей Расійскай імперыі. Пры гэтым бальшавікі крывадушна абяцалі ўсім народам «права на нацыянальнае вызначэнне аж да аддзялення». Але ніколі не выпускалі іх са сваіх задушлівых абдымкаў. Бальшавіцкія сатрапы на Беларусі — кнорыны, мяснікяны, іх хаўруснікі беспадстаўна даводзілі, што «беларуская дзяржаўнасць — гэта... выдумка буржуазных беларускіх інтэлігентаў-нацыяналістаў», што «этнаграфічныя прыкметы... Беларускага краю... могуць заўважыць пад мікраскопам толькі самыя ярыя беларускія нацыяналісты», што... «народныя масы Мінскай губерні амаль не чытаюць па-беларуску, ва ўсякім выпадку аддаюць перавагу рускім выданням». Гэта не толькі гістарычная фальсіфікацыя, а гвалтоўная знявага нашага нацыянальнага гонару, яўнае прыніжэнне нацыянальнай годнасці беларусаў, адкрытае аспрэчванне іх святога права на нацыянальнае самавызначэнне.

Калі па волі Крамля суседзі з Усходу і Захаду, кажучы словамі паэта-пакутніка Алеся Дудара, «Пасеклі наш край папалам», пачалося татальнае вытручванне нацыянальнага гонару беларускай нацыі, ахайванне нашых нацыянальных святынь — матчынай мовы, нацыянальнай культуры, гістарычнай спадчыны. Беларуская нацыя не прызнавалася за самастойную гістарычную супольнасць, а толькі ў якасці «галіны адзінага рускага кораня». Фальсіфікатары гісторыі нават і чуць не жадалі, што Беларусь — гэта самастойнае дрэва. Яно вырасла з уласных каранёў — крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, палачан, якія спрадвеку жылі на этнічных землях сучаснай Беларусі. Гэтае дрэва захавала сваю адметнасць праз стагоддзі.

У той час, калі бальшавікі ў БССР «гулялі» ў беларусізацыю, у Заходняй Беларусі дзяржаўныя дзеячы Польшчы не хавалі ўласных паланізатарскіх задум. Так, былы заходнебеларускі сенатар у Сойме Васіль Рагуля згадвае, што прэм'ер-міністр Скульскі ў 1922 годзе цынічна заявіў у парламенце, што праз пяцьдзесят год ніякіх беларусаў у Польшчы не будзе, а ўсіх беларусаў у Польшчы можна будзе пасадзіць на адной канапцы. Ход гістарычных падзей паказаў, што гэта не пустыя словы. Напрыклад, з чатырохсот беларускіх школ, якія працавалі ў Заходняй Беларусі ў 1920 годзе, праз шэсць гадоў не засталося ніводнай, у 1936 годзе цалкам забаранілі выкладаць беларускую мову. У 1937—1938 гадах былі ліквідаваны ўсе культурна-асветніцкія беларускія суполкі і арганізацыі. Такі «плён» панавання Польшчы на тэрыторыі Заходняй Беларусі...

Дарэчы, у дваццатыя гады беларускія сенатары і паслы ў Сойме палка адстойвалі нацыянальны гонар і нацыянальную годнасць беларусаў. Сваімі палымянымі прамовамі ў польскім парламенце, заклікамі на перадвыбарчых мітынгах яны абуджалі нацыянальную свядомасць беларусаў. Іх самаахвярная праца на карысць беларускага народа прынесла свой плён: беларускі народ абудзіўся, аб чым сведчыць небывалы колькасны рост «Грамады», якая стала буйнейшай партыяй у тагачаснай Еўропе — 120 тысяч чалавек! Калі б не авантурныя высілкі ЦК КПЗБ і ЦК КПБ, якія, выконваючы загад з Крамля, падштурхнулі «Грамаду» на «рэвалюцыйны шлях», то вельмі магчыма, што падзеі ў Заходняй Беларусі развіваліся б зусім інакш.

Такім чынам, нашы суседзі з Усходу і Захаду, спаборнічаючы паміж сабой, руйнавалі нацыянальны гонар беларусаў, ганьбавалі нашу нацыянальную годнасць, культывуючы пустазелле нацыянальнага нігілізму, вытручваючы са свядомасці беларусаў усё нацыянальнае.

Як вядома, нацыянальны гонар і нацыянальная годнасць мацуюць імунную сістэму нацыі, засцерагаюць яе супраць пранікнення віруса манкурцтва, даюць адпор вялікадзяржаўнаму шавінізму, які вісіць Дамоклавым мячом над невялікімі нацыянальнымі дзяржавамі. Зараз у Рэспубліцы Беларусь асноўнай небяспекай для нацыянальнага Адраджэння з'яўляюцца праімперскія сілы, якія групуюцца пад чырвонымі штандарамі, пад сцягамі з двухгаловым арлом. Гэта сімбіёз бальшавікоў, розных «саюзаў», славянасаборцаў ды ім падобных. Фактычна гэта пятая калона на Беларусі, мэта якой падрыхтаваць анексію нашай Бацькаўшчыны. На жаль, прадстаўнікі ўладных структур упарта не заўважаюць актывізацыі антыадраджэнцкіх сіл, якія ўяўляюць сабой рэальную небяспеку суверэннаму існаванню нашай дзяржавы.

Не існуе паняццяў нацыянальнага гонару і нацыянальнай годнасці для тых «народных выбраннікаў», якія сваімі выпадамі супраць здаровых патрыятычных сіл толькі ганьбяць нацыянальную годнасць беларусаў. Ахайваючы нацыянальную сімволіку і гістарычную спадчыну, яны дыскрэдытуюць нашу Бацькаўшчыну перад міжнароднай супольнасцю. Бо хто ж будзе паважаць дзяржаву, кіраўнікі якой пазбаўлены ўласнай нацыянальнай годнасці? Перад усімі свядомымі беларусамі зараз стаіць стратэгічная мэта — аб'яднаць свае шэрагі ў адзіную маналітную палітычную плынь, каб на вясенніх выбарах у Вярхоўную Раду выбраць нацыянальна свядомых, сумленных, кампетэнтных, адданых сваёй Бацькаўшчыне парламентарыяў, якія ніколі не зганьбяць нацыянальнага гонару і нацыянальнай годнасці беларусаў.

**Васіль СОКАЛ.**

*РЭХА*

## Дзякуем за калядны падарунак!

***Нашы сталыя чытачы добра знаёмы з цікавымі публікацыямі Пятруся Капчыка — беларуса, які ўжо даволі даўно жыве ва ўкраінскім горадзе Ізяслаўе. Нагадаем, што ў мясцовай школе, дзе сп.Капчык працуе, ён стварыў гурток беларускай культуры «Зорка Венера» і адразу ж са старонак «Нашага слова» звярнуўся да землякоў з просьбай дасылаць гуртку беларускамоўныя выданні, сувеніры. Просьба суайчынніка не засталася незаўважанай, некаторыя грамадзяне Беларусі адгукнуліся на яе. Пра адзін з такіх выпадкаў і паведамляецца ў допісе ізяслаўскага карэспандэнта. Але аўтар тут закранае вострыя і набалелыя праблемы сучаснага жыцця Рэспублікі Беларусь, якія бачацца нават здалёк.***

Напярэдадні Новага года на маё імя прыйшла пасылка з Менска ад спадароў Зміцера Цехановіча і Андруся Падлескага для гуртка беларускай культуры «Зорка Венера». Не магу перадаць той радасці, якая ахапіла гуртКоўцаў, калі мы распакавалі пасылку: дзіцячыя кнігі, цудоўныя паштоўкі, творы Уладзіміра Караткевіча і Леаніда Дайнекі, кнігі серыі «Наш вечны зьніч», касеты з беларускай музыкай (Данчык са Злучаных Штатаў Амерыкі, нязгасныя зоркі беларускага музычнага мастацтва Забэйда-Суміцкі і Александроўская, гурт «Бяседа», сучасныя беларускія эстрадныя песні, касета са старажытнай беларускай музыкай — творы Ельскага, Радзівіла, Марцынкевіча, Агінскага). З вялікай асалодай мы слухалі гэтае багацце беларускага народа, створанае на працягу некалькіх стагоддзяў. Многае нават я — ураджэнец Беларусі, сам чуў упершыню, не гаворачы ўжо пра дзяцей, якія нарадзіліся і жывуць у Ізяславе.

Калядны падарунак спадароў Зміцера і Андруся падтрымаў маю веру ў беларускае Адраджэнне, на якое апошнім часам ажыццёўлена масіраванае наступленне ўсіх антыбеларускіх сіл (рэзкія выпады супраць дзяржаўнай мовы Прэзідэнта А.Лукашэнкі, патрабаванні «двухмоўя» рознымі «саборамі», дамаганні змены дзяржаўнай нацыянальнай сімволікі, хваля гэтак званых бацькоўскіх «бунтаў» супраць беларускіх школ і класаў. Дарэчы, патрыятычная Украіна ад усяго гэтага прыйшла ў шок, бо тут падобнае адбыцца проста не магло, хаця рускіх пражывае звыш 10 мільёнаў, не кажучы пра астатніх «рускамоўных». На Украіне дзяржаўнай мовай з'яўляецца ўкраінская мова. Тут і прэзідэнт Кучма, і прэм'ер-міністр Масол, і ўсе астатнія сябры ягонага кабінета прылюдна размаўляюць толькі па-украінску. Думаю, што ў Беларусі бачылі рэпартаж з Будапешта аб сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў, дзе выступалі Лукашэнка, казахскі прэзідэнт Назарбаеў і Кучма. Першы і другі гаварылі не на сваіх родных мовах, а па-руску, Кучма ж — па-ўкраінску. Па-ўкраінску выступаў ён і ў час візітаў у Канаду і ЗША. Вось які прыклад стаўлення да дзяржаўнай мовы сваёй краіны з боку першай асобы дзяржавы: паўсюль, дзе б ён ні з'яўляўся, з ягоных вуснаў гучыць украінская мова, бо ён — прэзідэнт Украіны. Да слова, у нашым заканадаўстве запісана: «Прэзідэнтам Украіны можа быць яе грамадзянін, які валодае дзяржаўнай (украінскай) мовай». І зараз, калі ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь рыхтуецца «Закон аб Прэзідэнце», варта было б там адзначыць, што Прэзідэнтам Беларусі можа быць асоба, якая дасканала валодае беларускай мовай і карыстаецца ёю ў сваёй працоўнай дзейнасці.

Няхай даруюць мне чытачы за пэўнае адступленне ад тэмы. Але не змог утрымацца, каб не сказаць некалькі слоў па праблеме, якая мяне вельмі хвалюе. Нічога тут дзіўнага, на Беларусі я нарадзіўся, вучыўся, там засвоіў такую мілагучную, спеўную мову, якая зараз апынулася ў смяротнай небяспецы... Пасылка ад невядомых мне спадароў сведчыць, што ёсць сапраўдныя беларускія патрыёты на маёй Бацькаўшчыне. Дык жа дзякуй вам, спадары, за тое, што сваім падарункам вы ўдыхнулі ў мяне новы струмень надзеі на светлую будучыню Беларусі. Найлепшыя пажаданні ўсім сябрам і прыхільнікам Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ад гуртКоўцаў ізяслаўскай «Зоркі Венеры».

Жыве Беларусь!

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг, выкладчык рускай і польскай моў сярэдняй школы № 1 г.Ізяслава, кіраўнік куртка беларускай культуры «Зорка Венера».**
Украіна.

*Уражанні*

**Мікола КАПЫЛОВІЧ**

# ПАЧУТАЕ І ЎБАЧАНАЕ

### Удваіх

— Я не адна жыву ў хаце. З радзівам. Яно мяне і будзіць і спаць кладзе. І кожны раз гаворыць: цёпла ці холадна на дварэ. Радзьва для мяне — жывы чалавек. Я з ім гамонку вяду, песні спяваю. І вельмі баюся, каб яно не сапсавалася, бо ўся хата мая аглухне. Жыць буду, як у магіле.

### Памёр бы дурнем

— Калі мяне арыштавалі, маці моцна плакала, даючы мне ў рукі Біблію: «Вазьмі, сынок, з ёю бяду будзе лягчэй агараць». Не паслухаў яе, схапіў іншую біблію — «Краткий курс истории ВКП(б)». Бо бязбожнікам быў. І гарачым бальшавіком. Прывялі мяне да следчага. Той зірнуў на тоўстую кнігу, якую я трымаў у руцэ, ды як урэжа знянацку мне па зубах: «Ты — вораг партыі, а тут пад вернага ленінца маскіруешся?!» Адабраў кнігу і кулакамі, нагамі такую правёў са мною «палітгутарку», што веру ў партыю ў мяне як рукою зняло. За гэта, зрэшты, дзякуй яму: памёр бы дурнем.

### «Лёд кранууўся»

— Было гэта з чвэрць стагоддзя назад. Сябра ў мяне быў. Жыў у Мазыры. Хата яго стаяла на самым беразе Прыпяці. Сабраўся я неяк зімою да яго ў госці. Выпілі па чарцы. Кажу сябру: «Калі вясною пачне кранацца лёд, то абавязкова мне адразу паведамі. Вельмі хачу на крыгаход паглядзець». А праз колькі часу паштарка прыносіць мне тэлеграму. Тэкст — у адзін радок: «Лёд крануўся». Паехаў. Заходжу да сябра ў знаёмую хату. Гляджу: той нейкі ўспалоханы, устрывожаны. Нават не прывітаўся са мною. «Што здарылася?» — пытаюся я. «Толькі што з КДБ выпусцілі, — адказвае. — На допыт выклікалі. Цікавіліся поўным зместам «шыфроўкі»: «Лёд крануўся»!

### Морж

— Быў у нас сакратар райкама. Тоўсты, мардаты, вусаты. І людзі адразу прысабачылі яму мянушку. «Маржом» пачалі называць. Ён і сапраўды быў вельмі падобны на гэтую марскую жывёліну. Не ішоў па вуліцы, а плыў, пакалыхваючы вялізным сваім жыватом, а рукамі, нібы тымі ластамі, паветра пад сябе падграбаў.

### На паваддку

— Я і цяпер гляджу на тэлефонны шнур, як, даруйце, на той сабачы павадок. Чаму? Тэлефанююць, бывала, з абкама: «Колькі гурткоў палітасветы ўжо створана ў вашым раёне? Колькі лекцый прачытана?» Давай, маўляў, як трэба наладжвай па раёне сваю брахалаўку: гаў ды гаў. І цяпер мне здаецца, што тады на мяне, як на сабаку, надзявалі ашыйнік, а павадок ад яго недзе наверсе моцна трымалі.

*У газетах*

# Нацыянальная ідэя — шлях да выратавання

Як вядома, прэса трывала лічыцца своеасаблівым люстэркам любога грамадства. Прычым ступень яго дакладнасці значна вышэй там, дзе журналісты вызвалены ад бясконцых путаў і цугляў, уласцівых таталітарным рэжымам. Таму ў вольным свеце незалежныя сродкі масавай інфармацыі не выпадкова называюць «чацвёртай уладай». І хоць наша сённяшняя дэмакратычная прэса робіць толькі першыя крокі ў згаданым накірунку, яна на вачах ператвараецца ў аўтарытэтны грамадскі барометр, які карыстаецца шырокім даверам. Добры тут прыклад — «Народная газета», якая за кароткі час па папулярнасці змагла далёка абагнаць усе іншыя перыядычныя выданні.

Напярэдадні праваслаўных Калядаў «Народная газета» пад агульнай назвай «Сэрца чуе небяспеку» апублікавала вялікую падборку чытацкіх допісаў у рэдакцыю. Іх аўтараў яднае пачуццё небяспекі, якая зараз пагрозліва навісла над свабодай і незалежнасцю Бацькаўшчыны. Гэтых грамадзян да болю непакоіць тое, што ў рэспубліцы адкрыта ўзнялі галаву варожыя, антыбеларускія сілы. Апошнія публічна заклікаюць да ліквідацыі нашай дзяржавы, да перагляду беларускай дзяржаўнай сімволікі, усяляк бэсцяць дзяржаўную мову, усю нацыянальную культуру.

У абарону гістарычнага беларускага герба «Пагоня» і нашага бел-чырвона-белага сцяга выступіла група жыхароў вёскі Дуброва Светлагорскага раёна. А Валянціна Русаковіч з Ліды ў сваім лісце робіць выснову: «Хто размаўляе на чужой мове, той жыве чужым розумам». У падборцы таксама друкуецца інфармацыйнае паведамленне аб стварэнні шэрагам грамадскіх арганізацый (сярод іх — і ТБМ імя Ф.Скарыны) Каардынацыйнага камітэта па абароне беларускай мовы, калектыўны ліст грамадзян Кастрычніцкага раёна Менска (падпісалі 55 чалавек), якія патрабуюць ад Прэзідэнта спыніць знявагу роднага слова і дыскрымінацыю беларускамоўнага насельніцтва. Асаблівай увагі тут заслугоўвае допіс групы жыхароў Верхнядзвінска «Мы — за глыбінныя асновы нацыянальнай дзяржавы». Аўтары перакананы, што толькі нацыянальная беларуская ідэя з'яўляецца галоўнай і адзінай выратавальнай сілай, якая здольна вывесці нашу краіну з сучаснага глыбокага і ўсеахопнага крызісу. Яны падкрэсліваюць: толькі нацыянальная ідэя дасць мэту і сэнс жыцця цяперашнім і наступным пакаленням Бацькаўшчыны.

М.В.

# Беларускае «сэрца» і нямецкае «Herz» аднаго кораня

***Гутарка з кандыдатам філалагічных навук, выкладчыкам Менскага лінгвістычнага універсітэта Г.А.Скакун***

**— Галіна Аляксееўна, вядома, што нямецкая мова адносіцца да ліку найбольш распаўсюджаных у свеце. Больш за сто мільёнаў на зямным шары называюць яе роднай, а статус дзяржаўнай яна мае ў чатырох краінах: ФРГ, Аўстрыі, Швейцарыі, Ліхтэнштэйн. Здаецца, расце цікавасць да яе і ў нас на Беларусі?**

— Безумоўна. І гэта тлумачыцца цэлым шэрагам прычын рознага характару. У нашай рэспубліцы ёсць дастаткова шырокія магчымасці для вывучэння нямецкай мовы — ад атрымання спецыяльнай адукацыі ў дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, які мае багаты вопыт, кваліфікаваныя кадры і добрую матэрыяльную базу, да заняткаў на курсах рознага ўзроўню і якасці. Хацелася б спадзявацца, што ў гэтую работу ў бліжэйшы час уключыцца таксама і Інстытут імя Гётэ — нямецкі культурны цэнтр, які фактычна ўжо даўгода працуе ў Менску, але афіцыйна пакуль што не адкрыты.

**— Зрабіце невялікі экскурс у гісторыю нямецкай мовы. У чым яе адметнасць? Як яна развівалася?**

— Чытачу, які хоць трошкі займаўся лінгвістыкай, павінна быць вядома, што нямецкая мова і наша беларуская развіліся з адной крыніцы, паколькі яны абедзве адносяцца да ліку індаеўрапейскіх моў. Аднак, не ведаючы заканамернасцей фанетычных змяненняў і развіцця граматычнага ладу абедзвюх моў, цяжка сабе ўявіць, што, напрыклад, беларускае «сэрца», «сеяць», «тры» і адпаведна нямецкае «Herz», «säen», «drei» — гэта вынік развіцця адных і тых жа старажытных слоў. Такіх прыкладаў можна прывесці вельмі шмат. Вучоныя мяркуюць, што станаўленне германскай прамовы на аснове дагерманскіх дыялектаў індаеўрапейскай мовы ажыццяўлялася на працягу апошніх двух тысячагоддзяў да нашай эры. Потым разыходжанні паміж дыялектамі асобных германскіх плямёнаў настолькі паглыбляюцца, што ўжо ў сярэдзіне першага тысячагоддзя нашай эры такія дыялекты, як баварскі, франкскі, моцна адрозніваюцца, напрыклад, ад дыялектаў паўночных германцаў. Прыкладна ў пачатку VIII стагоддзя нашай эры шмат якія асобныя плямёны франкскай дзяржавы асэнсавалі сваю ўласную моўную агульнасць.

**— Вядома, што якраз у гэты час з'явіліся першыя вядомыя літаратурныя помнікі, галоўным чынам слоўнікі, лацінскія тэксты, а таксама падрадкоўныя пераклады. Які ўплыў на мову германцаў аказала лаціна, а таксама Рымская імперыя?**

— Першым перакладчыкам даводзілася вырашаць цяжкую задачу перадаць змест, які быў выкладзены на высокаразвітай лацінскай мове з яе багатым слоўнікам і дакладна рэгламентаваным сінтаксісам з дапамогай сродкаў, якія мелі розныя старажытнаверхненямецкія дыялекты, якія не вызначаліся ні пэўнымі граматычнымі правіламі, ні лексічнай разнастайнасцю. Таму натуральна, што развіццё пісьмовай нямецкай мовы ў яе ранні перыяд знаходзілася пад пэўным уплывам лаціны. Гэта знайшло адлюстраванне, у прыватнасці, ва ўзбагачэнні старажытнаверхненямецкага слоўніка, як «чыстымі» запазычаннямі з лацінскай (напрыклад, Altar, Chor, Messe, Kapelle, Schule), так і калькамі (напрыклад, лацінскае con-scient-ia — нямецкае Ge-wissen) для абазначэння шматлікіх з'яў.

Аднак тут неабходна адзначыць, што рабіць высновы аб тым, якой была нямецкая мова першых перыядаў яе развіцця, можна толькі па пісьмовых помніках, а да нашых дзён дайшла толькі іх вельмі нязначная частка. Таму неабходна ўлічваць спецыфіку як ідыялекта (індывідуальных моўных асаблівасцей) перакладчыка, так і яго дыялекта.

**— А ці існавала ў сярэднявечны агульная літаратурная мова?**

— Адназначнага адказу на гэтае пытанне няма. Аднак большасць вядомых германістаў лічыць, што не існавала. Пачынаючы з XII стагоддзя нямецкамоўныя тэрыторыі значна пашыраюцца, асабліва ва ўсходнім накірунку. Да гэтага часу германскія плямёны ўжо зніклі з гістарычнай арэны; ім на змену прыйшлі герцагствы, графствы і г.д. Насельніцтва гэтых невялікіх дзяржаўна-палітычных і царкоўна-прававых структур, якія характарызуюцца, з аднаго боку, іерархічнай узаемападпарадкавальнасцю, а з другога — дастатковай незалежнасцю ад цэнтральнай імператарскай улады, карыстаецца дыялектам сваёй маленькай дзяржавы, у значнай ступені абасобленай. Для паэтычнай мовы становіцца ўжо характэрнай пэўная уніфікацыя, дыялектныя асаблівасці некалькі сціраюцца, таму што паэты, вандроўныя спевакі не абмяжоўваюцца выкананнем сваіх песень на радзіме і іх мова ўбірае ў сябе рысы іншых дыялектаў, але ў цэлым літаратурныя помнікі адлюстроўваюць асаблівасці дыялекта аўтараў. У XII стагоддзі ў Германіі пачынае развівацца літаратура на нямецкай мове — рыцарская паэзія. Рыцарская культура ў цэлым прыйшла ў Германію з Францыі, а разам з ёй у сярэдневерхненямецкія дыялекты пачалі пра-нікаць запазычанні з французскай мовы. У адрознен-не ад лацінскіх запазычанняў большасць з іх аказаліся недаўгавечнымі і зніклі разам з паняццем рыцарскай культуры. І толькі адносна малая іх колькасць цяпер уваходзіць у слоўнікавы склад су-часнай нямецкай мовы. Дарэчы, іх аналагі ёсць у беларускай мове: Abenteuer — авантура, Turnier — турнір, Flöte — флейта і г.д.

**— Як узаемадзейнічаюць паміж сабой дыялекты і літаратурная нямецкая мова?**

— Пачынаючы з XIV стагоддзя ўмацоўваюцца пазіцыі нямецкай мовы як мовы дзелавых зносін. Яна выцясняе лацінскую мову з ужытку ў імператарскай і княжацкіх канцылярыях. Трэба сказаць, што вялікі ўплыў на развіццё нямецкай мовы зрабіў росквіт гарадоў. Гарадскія мовы развіваліся і функцыянiравалі разам з сялянскімі дыялектамі. Найбольш вялікія і аўтарытэтныя гарады робяць значны ўплыў на мову дзелавых зносін. Імперскай канцылярыяй у Празе была зроблена першая свядомая спроба уніфікаваць мову. Асновай для будучай адзінай нацыянальнай мовы паслужылі перш за ўсё сярэдненямецкія, у прыватнасці, усходнесярэдненямецкія дыялекты, аднак урэшце яна ўяўляе сабой вынік узаемадзеяння дыялектаў, якія розняцца на месцазнаходжанні і ў часе. Рашучую ролю ў яе фарміраванні адыграў рух рэфарматараў, і ў першую чаргу дзейнасць Марціна Лютэра. Ён пераклаў Біблію на нямецкую мову, пры гэтым абапіраючыся на свой родны мейсенскі дыялект (Лютэр выкарыстоўваў яго слоўнік і асаблівасці вымаўлення) і на мову імперскай саксонскай канцылярыі, на якой, па яго словах, пісалі «ўсе імперскія гарады і нямецкія двары». Замацаваная Лютэрам пісьмовая норма нацыянальнай мовы распаўсюдзілася спачатку на захадзе і ў цэнтральнай частцы нямецкіх тэрыторый. У цэлым жа яе распаўсюджванне завяршаецца толькі пад канец XVIII стагоддзя.

**— На працягу гэтага часу нямецкая мова неаднаразова адчувае ўплыў з боку іншых моў.**

— Можна сказаць увесь час. Напрыклад, у XVI стагоддзі ў мове гандлю з'яўляюцца італьянскія запазычанні (Kredit, Kapital), у той жа час мова мастацтва ўзбагачаецца запазычаннямі з італьянскай, найменнямі тыпу Alt, Tenor, запазычаюцца кулінарныя паняцці (Makkaroni, Marzipan) і будаўнічыя тэрміны (Fundament, Portal). Вялікі ўплыў на слоўнікавы склад нямецкай мовы зрабіла французская рэвалюцыя, што адлюстравалася ў з'яўленні такіх палітычных тэрмінаў, як Konstitution, Monarchie, Komitee, Revolution. У мову палітыкі ўвайшоў цэлы шэраг англійскіх запазычанняў (Parlament, Präsident, Opposition). Плыні запазычанняў заўсёды былі звязаны з тымі ці іншымі важнымі з'явамі ў грамадскім жыцці і эканоміцы, развіццём тэхнікі і навукі.

**— Ці сустракаюцца зараз дыялекты нямецкай мовы ў чыстым выглядзе?**

— Практычна не. Тым не менш, калі размаўляем з выхадцамі з таго ці іншага рэгіёна, нярэдка па асаблівасцях вымаўлення, па некаторых лексічных адзінках можна вызначыць родны дыялект субяседніка. І гэтыя асаблівасці праяўляюцца ў большай ці меншай ступені ў залежнасці ад таго, наколькі адукаваны чалавек, з кім ён размаўляе (з афіцыйнымі асобамі, з роднымі), і ад іншых фактараў. Аднак гэтыя асаблівасці не замінаюць разуменню дыялектна афарбаванай мовы, паколькі кожны носьбіт мовы выкарыстоўвае яго агульнанацыянальны варыянт.

**— А як развіваліся арфаграфічныя нормы нямецкай мовы?**

— На працягу развіцця нямецкай мовы яе арфаграфічныя нормы неаднаразова мяняліся. Напісанне далёка не заўсёды адэкватна вымаўленню. Цяпер рыхтуецца рэформа нямецкага правапісу, у выніку якой яно павінна значна спрасціцца, што, безумоўна, палегчыць вывучэнне пісьмовай мовы.

**— Вашы пажаданні тым, хто збіраецца вывучаць нямецкую мову.**

— Найперш выбраць добры падручнік для пачынаючых або тых, хто хоча вывучаць мову самастойна, добрыя курсы нямецкай мовы (найлепш пры гуманітарных навучальных установах, якія маюць свае традыцыі выкладання мовы). Не баяцца цяжкасцей, якія непазбежны пры вывучэнні любой замежнай мовы, імкнуцца рэалізаваць свае моўныя навыкі па меры іх набыцця, не адкладваць гэта да тых часоў, калі вы будзеце валодаць мовай у дасканаласці.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# Айцец Антон Неманцэвіч

***Антон Неманцэвіч пэўны час займаў кіруючае становішча ў Беларускай грэка-каталіцкай (уніяцкай) царкве — быў першым беларускім экзархам і да таго ж шчырым патрыётам Бацькаўшчыны. Дадзены жыццяпіс айца Антонія напісаны вядомым дзеячам Беларускай царквы на эміграцыі Львом Гарошкам (часопіс «Божы шлях», Парыж, 1956 г.). Друкуецца са скарачэннямі.***

Радзіўся Антон Неманцэвіч 8 лютага 1893 г. у набожнай беларускай каталіцкай сям'і на Беласточчыне. Атрымаў першую асвету ў Саколцы, а потым у Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі, ён у 1914 г. паступіў у Пецярбургскую духоўную каталіцкую акадэмію і там адразу увайшоў у склад Беларускага гуртка, які існаваў у акадэміі ад 1912 г. Удзельнічаў таксама ў гуртку Беларускай народнай асветы, якім кіраваў праф. Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Гэтая праца значна ўзмацніла ягоную беларускую нацыянальную свядомасць. Па-за навукаю ў акадэміі ён цікавіўся гісторыяй Беларусі, асабліва гісторыяй уніяцкай царквы, маючы да гэтага багаты матэрыял у бібліятэцы гуртка і асабліва ў бібліятэцы акадэміі. Для сяброў гуртка ён чытаў рэферат аб уніяцкім руху на Беларусі.

Акадэмічныя студыі а.Антон закончыў у 1918 годзе. Душпастырскую працу распачаў вікарыем пры парафіі св.Кацярыны ў Петраградзе. Гэта быў вельмі неспакойны час і яму не раз прыходзілася адлучвацца з свае парафіі.

У 1921 г. а.Антон першы раз трапіў у савецкую турму. З петраградскае турмы яго перавезлі ў маскоўскую і там вызвалілі, але не надоўга. Падчас кароткага прабывання на волі ў Маскве а.Антон быў назначаны вікарыем міжнароднае каталіцкае парафіі апосталаў Пятра і Паўла. Гэта быў час, калі бальшавікі часта ладзілі дыспуты на рэлігійныя тэмы. Аднойчы на такім дыспуце выступаў у ліку іншых тагачасны камісар асветы Луначарскі. Супраць савецкіх агітатараў выступаў а.Антон супольна з праваслаўным святаром а.А.Баярскім, і так яны ўдала перамаглі бальшавіцкіх бязбожных агітатараў, што ў зале доўга не змаўкалі гучныя воплескі прызнання. Пасля дыспуту адзін бальшавіцкі агітатар дакараў а.Баярскага: «Чаму вы выступілі разам з каталіцкім святаром, калі вы між сабою таксама ведзяце барацьбу?!» На гэта а.Баярскі адказаў: «Праўда, мы між сабою спрачаемся, але гэта наша сямейная справа. Калі ж мы бачым супольнага ворага, дык да барацьбы з ім выступаем разам».

І вось гэтае знаходжанне супольнасці стала істотнай адзнакай дзейнасці а.Антона, асабліва ў далейшым перыядзе.

Летам 1923 г. ён зноў трапіў у турму і гэтым разам да пачатку 1925 г. Затым быў перавезены ў Польшчу, якая абмяняла палітычных вязняў на святароў. У тым жа 1925 г. паехаў у Рым працягваць вучобу. Там пры Усходнім інстытуце ён вывучаў багаслоўе і здабыў тытул доктара. Дысертацыю пісаў на тэму: «Бальшавіцкае заканадаўства ў Расіі адносна рэлігійнага і маральнага ўзгадавання дзяцей у параўнанні да божага права, натуральнага і аб'яўленага». Абарона дысертацыі адбылася 2 ліпеня 1927 г.

Падчас сваёй вучобы а.Антон пазнаёміўся бліжэй з айцамі езуітамі, якія кіравалі інстытутам і ў якім часта вяліся гутаркі аб Альбертыне каля Слоніма, дзе ў 1924 г. быў адчынены кляштар айцоў езуітаў усходняга абраду і навіцыят[1].

Вярнуўшыся з Рыма ў Заходнюю Беларусь, а.Антон уключаецца актыўна ў рэлігійную працу і адразу пераконваецца, што яна можа быць шмат больш карыснаю для Каталіцкай царквы і беларускага народа, калі будзе весціся ў нейкай арганізаванай форме і з адпаведнымі кадрамі духавенства. Бачачы, што ў Альбертыне плануецца гэткая праца, ён паступае 13.9.1929 г. у езуіцкі навіцыят у Альбертыне і прымае ўсходні абрад.

Па адбыцці навіцыяту ён становіцца парахам[2] усходнекаталіцкае парафіі ў Альбертыне і арганізуе адначасна выданне беларускага рэлігійнага часопіса «Да злучэння», першы нумар якога выйшаў у студзені 1932 г. Большую частку артыкулаў прыходзілася пісаць самому рэдактару. Толькі некаторыя артыкулы ён падпісваў сваім прозвішчам, часцей сустракаецца ягоны подпіс а.Антоні і псеўданім Злучэнец. Маючы шмат турбот з рэдагаваннем і выдаваннем часопіса, ён знаходзіў яшчэ час, каб напісаць артыкулы для іншых беларускіх выданняў і ў Беларускі каляндар. Узровень артыкулаў а.Антона быў прыстасаваны да шырокага кола чытачоў.

Летам 1932 г. у Пінску адбыўся 3-ці уніяцкі з'езд, на які быў запрошаны а.Антон — ён меўся чытаць па-беларуску рэферат. За пару дзён да адкрыцця з'езда, калі ўжо рэферат быў гатовы, яму было загадана пераклумачыць яго на польскую мову. Гэтым фактам а.Антон быў так абураны, што больш ніколі не прымаў удзелу ва уніяцкіх канферэнцыях.

У жніўні 1933 г. яго пераводзяць з Альбертына ў Сынкавічы, а ў наступным годзе ў Дубна на становішча прафесара пастырскага багаслоўя ў Папскай семінарыі, пакідаючы яго і далей рэдактарам «Да злучэння».

Падчас летніх вакацый ён часта гасцяваў у беларускіх усходнекаталіцкіх парафіях, гаворачы там казанні на беларускай мове.

Тым часам умовы рэлігійнай працы станавіліся ўсё цяжэйшымі і цяжэйшымі. У 1938 г. быў спынены выхад часопіса «Да злучэння» толькі таму, што ён выдаваўся па-беларуску. Альбертынскі манастыр быў заўсёды абстаўлены шпікамі, якія сачылі за кожным, хто туды прыязджаў, а некаторых наведвальнікаў паліцыя затрымоўвала і пасля допытаў у Слоніме адсылала дахаты з перасцярогаю больш не паказвацца ў Альбертыне.

Націск польскае адміністрацыі, напады польскае шавіністычнае прэсы і незакілзаны разгул паліцыі часта прымалі такі варожы характар, скіраваны супраць уніяцкай царквы і вернікаў, што аднойчы апостальскі нунцый заявіў падсакратару стану ў Варшаве: «На абшарах Усходніх Крэсаў пануе стан рэлігійнага праследавання. Аднак у гэтых цяжкіх умовах а.Антон не апускаў бездапаможна рук. На пачатку 1939 г. ён арганізуе ў Варшаве выданне новага беларускага часопіса «Злучэнне». Шмат памаглі яму ў рэдакцыйнай працы студэнты-беларусы. Варта заўважыць, што яны амаль усе былі праваслаўнымі. Выданне новага часопіса спыніла Другая сусветная вайна.

І так цяжкая рэлігійная праца стала яшчэ цяжэйшай ад верасня 1939 г., калі Заходняя Беларусь увайшла ў склад БССР. Адразу частка ўсходнекаталіцкіх парафій была зліквідавана, а другая частка была пад пагрозай ліквідацыі ў сувязі з немагчымасцю сплачваць вялікія падаткі. Але ў гэтых цяжкіх умовах а.Антон не спыняе сваёй дзейнасці. Ён, ведаючы, што Львоўскі ўкраінскі мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі меў ад папы Пія X яшчэ 18.2.1908 г. спецыяльныя паўнамоцтвы адносна ўсяго абшару Расейскай імперыі, уваходзіць з ім у бліжэйшы кантакт і даведваецца аб ягоных намерах скарыстаць тыя паўнамоцтвы. У траўні 1940 г. мітрапаліт Шаптыцкі стварыў чатыры ўсходнекаталіцкія экзархаты, між якімі таксама Беларускі экзархат, назначаючы экзархам а.Антона Неманцэвіча.

Новае становішча а.Антона было спалучана не толькі з вялікімі цяжкасцямі, але вымагала таксама заўсёднае гатоўнасці да найбольшых ахвяр. На гэткую ж небяспеку мусілі быць гатовымі ўсе супрацоўнікі. На ўсякі выпадак ён адразу назначыў сабе двух намеснікаў і адбыў з імі кароткую нараду. Гэта была першая нарада Беларускага ўсходнекаталіцкага Экзархата. Адбывалася яна 20 чэрвеня ў адной з усходнекаталіцкіх парафій, а наступнага дня ў парафіяльнай царкве была адпраўлена саборная служба Божая ў намерах Экзархата і беларускага народа. Дзеля заўсёднае небяспекі з боку бальшавікоў праца вялася спачатку ў невялікім коле давераных людзей і ў вялікім сакрэце.

Падчас першых крокаў свае працы ўсе новапрызначаныя экзархі пераканаліся ў неабходнасці неадкладнага вырашэння шматлікіх кананічных і практычных пытанняў. З гэтаю мэтаю адбыліся ў Львове два саборы экзархаў. Першы 18—19 верасня 1940 г., а другі 13—14 чэрвеня 1941 г. Пастановы аб назначэнні экзархаў і акты сабораў былі адасланыя ў Рым і зацверджаны папай Піем XII 22 кастрычніка 1942 г.

Калі ў чэрвені 1941 г. на змену бальшавікам Беларусь і Украіну занялі немцы, дык украінскі і валынскі экзархі выйшлі з укрыцця і пачалі разгортваць сваю дзейнасць. Даведаўшыся аб гэтым, а.Антон таксама распачаў старанні перад нямецкімі акупацыйнымі ўладамі аб легалізацыі Беларускага Экзархата. Хоць і неахвотна, а з адтэрміноўкамі, але ўсё ж у сакавіку 1942 г. генеральны камісар Беларусі выдаў дазвол экзарху на легальную дзейнасць. Маючы дазвол, перш чым разгарнуць працу, неабходна было вырашыць некалькі вельмі далікатных спраў.

Да гэтага часу ўсходнекаталіцкія парафіі на абшары Беларусі былі пад юрысдыкцыяй каталіцкіх біскупаў лацінскага абраду. Цяпер экзарх асабіста звяртаўся да кожнага біскупа, каб пераняць ад іх свае парафіі. Распачаў гэтыя старанні ад Віленскага мітрапаліта. І тут экзарха чакала прыемная неспадзяванка. Я.Э.Яблжыкоўскі, не зважаючы на свае варожыя адносіны да ўсяго беларускага, перадаў усходнекаталіцкія парафіі свае дыяцэзіі ў Беларускі Экзархат без ніякіх цяжкасцей. Пінскі біскуп Я.Э.Букраба ў тым часе жыў у Львове. Калі ўдалося навязаць з ім кантакт, ён таксама без ніякіх засцярог перадаў усе ўсходнекаталіцкія парафіі свае дыяцэзіі Беларускаму Экзархату. На парадку дня ў дзейнасці Экзархата стаялі такія важныя пытанні, як арганізацыя духоўнае кансісторыі, арганізацыя духоўнае семінарыі, друк богаслужэбных кніг, арганізацыя беларускае рэлігійнае перыядычнае прэсы і інш. Большасць гэтых праблем прыйшлося адлажыць да спрыятлівейшых абставін.

Аб існаванні Беларускага ўсходнекаталіцкага Экзархата беларускія грамадскія колы маглі даведацца з першага пастырскага ліста, які выдаў экзарх на Вялікдзень 5 красавіка 1942 г., звяртаючыся ў ім да ўсяго беларускага народа. Ліст быў глыбока рэлігійны і шчыра патрыятычны.

Вестку аб існаванні Беларускага ўсходнекаталіцкага Экзархата беларускае грамадства прыняло даволі прыхільна, як аб гэтым можна пераканацца з водгаласаў у тагачаснай беларускай прэсе. «Баранавіцкая газета» двойчы апублікавала весткі аб Экзархаце. На пачатку траўня 1942 г. з'явіўся артыкул аб утварэнні Беларускае грэка-каталіцкае царквы, а ў канцы траўня таго ж года паведамлялася, што 2 траўня была ўтворана Рада Экзархата, а 3 траўня — Духоўны Суд; адначасна падаваліся кароткія весткі аб асобе а.Неманцэвіча і падчырквалася, што ў Экзархаце ўрадаваю мовай і мовай казанняў ёсць выключна беларуская мова.

Зацікаўленне новай беларускай рэлігійнай установай было вялікае не толькі на Бацькаўшчыне, але і на эміграцыі.

З-за нястачы духавенства ўсю арганізацыйную працу ў Экзархаце выконваў сам айцец экзарх. Гэта яго змушала часта падарожнічаць... Падчас гэтых падарожжаў а.Антон ніколі не мінаў нагоды адведаць у прыдарожных цэнтрах мясцовых беларускіх дзеячаў, а ў суседнім з Альбертынам Слоніме ён быў у заўсёдным кантакце з тамтэйшым беларускім актывам і беларускімі арганізацыямі, сустракаючы прыхільнасць як між католікаў, так і праваслаўных беларусаў. А калі ў Слоніме заснаваўся аддзел Беларускае самапомачы, дык кіраўнікі аддзела стараліся дзейсна дапамагаць экзарху ў межах сваіх магчымасцей: перасылалі ягоныя лісты сваімі кур'ерамі разам са сваёй карэспандэнцыяй, калі-нікалі хадайнічалі перад нямецкімі ўладамі для прыхільнага палагоджання бягучых спраў Экзархата. Аднак расейскія дзеячы і нават некаторыя польскія адносіліся да а.Неманцэвіча вельмі варожа. Асабліва варожа было настроена да яго расейскае духавенства (мітрапаліт Панцеляймон, архімандрыт Марозаў), і кожны новы крок у дзейнасці экзарха яны суправаджалі даносамі ў нямецкае гестапа. Для пісання даносаў на а.Антона яны выкарыстоўвалі тыя абставіны, што ён быў езуітам і жыў у езуіцкім Альбертынскім кляштары; паўтаралі ў сваіх пісьмах старыя супрацьезуіцкія выдумкі, малюючы яго скрытым палякам.

Падчас нямецкае акупацыі ў Слоніме знаходзіўся моцны нелегальны цэнтр расейскіх арганізацый «Трудового союза» і «Братства русской правды». Гэтыя арганізацыі нароўні з праваслаўнымі епіскапамі ў недалёкіх Жыровічах лічылі Беларускі Экзархат вялікай перашкодай для сваёй дзейнасці і не шкадавалі высілкаў, каб яго знішчыць. Асабліва шкодзіў беларускаму экзарху актыўны сябра вышэйназваных расейскіх арганізацый і адначасова ўрадавец нямецкага гестапа — Ушпік. Ягоныя інтрыгі выкарыстоўвалі епіскапы з Жыровіч, каб рабіць новыя даносы.

Інтрыгі і даносы моцна паралізавалі дзейнасць а.Антона. Трэба ведаць, што ў гэтым часе распачаліся на Слонімшчыне расстрэлы каталіцкага духавенства. Аднак экзарх належаў да тых людзей, што не капітулююць перад небяспекай. Яшчэ на пачатку 1942 г. ён заснаваў Апостальства малітвы за Беларусь. Сябрамі Апостальства спачатку былі толькі святары. Яны забавязваліся штомесяц адпраўляць за беларускі народ адну службу Божую — кожны святар у іншы дзень з такім разлікам, каб па магчымасці штодзённа адпраўлялася за народ служба Божая. Ад моманту легалізацыі Экзархата а.Антон збіраў сясцёр скрытак, якія жадалі б працаваць у беларускіх сірацінцах; пакуль гэты праект мог ажыццявіцца, прасіў іх штодня маліцца за Экзархат.

У выніку даносаў і інтрыг агенты гестапа пачалі сачыць за кожным крокам а.Антона. Тады нават некаторыя беларускія святары раілі яму «прыціхнуць». Аднак высокая годнасць экзарха вымагала ісці ўпярод згодна з наказам Хрыста: «Ніводзін, хто ўзлажыў руку сваю на плуг і аглядаецца назад, не здатны да Божага валадарства» (Лук. IX, 62). І экзарх бясстрашна йшоў упярод раз абраным шляхам, планаваў пашырыць сваю працу. Дзеля гэтага ён хацеў пабачыцца з мітрапалітам Шаптыцкім і зрабіў усе магчымыя захады перад нямецкімі ўладамі, каб атрымаць пропуск на падарожжа ў Львоў, куды ён адбыў у ліпені 1942 г.

Падарожжа ў Львоў трывала амаль два тыдні і, на жаль, не прынесла нічога суцяшаючага, бо ў Львове кантакт з Рымам быў толькі прынагодны і аднабаковы, гэта значыць, што часам было магчыма з рызыкай адаслаць лісты ў Рым, але не было надзеі атрымаць на іх адказ. Мітрапаліт Шаптыцкі мог падзяліцца толькі сумнымі весткамі аб супрацькаталіцкіх кроках нацыстаў. Украінскі грэка-каталіцкі экзарх быў вымушаны пакінуць Кіеў і наогул дзейнасць гэтага мітрапаліта ва ўсім абмяжоўвалася.

Адразу пасля падарожжа ў Львоў нямецкае гестапа пастанавіла знішчыць экзарха, аднак, не маючы ніякіх фактаў для нейкага хоць бы фіктыўнага абвінавачвання, запланавала зліквідаваць яго скрыта. На пачатку жніўня 1942 г. аднае ночы перад брамаю Альбертынскага кляштара спынілася аўто з гестапаўцамі. Яны ўварваліся ў кляштар і «папрасілі» а.Антона Неманцэвіча паехаць з імі ў Слонім. Яму не дазволілі ўзяць з сабою ніякіх рэчаў, бо «нашто браць, калі ён хутка вернецца».

Са Слоніма а.Антона высылаюць у Менск, але ў Менску ён заставаўся нядоўга, бо толькі адзін раз у турме ўзялі пасылку на яго імя.

З боку свецкіх і рэлігійных дзеячаў рабілася шмат старанняў, каб вызваліць а.Неманцэвіча. Аднак усе старанні засталіся дарэмнымі. Замест абяцанага вызвалення экзарха нямецкае гестапа прыспешаным тэмпам праводзіла поўную ліквідацыю Экзархата. І калі ў канцы верасня з'явіўся ў Альбертын адзін з намеснікаў экзарха, каб прынамсі часова абслугоўваць тамтэйшую парафію, дык у слонімскім гэбітскамісарыяце яму было загадана неадкладна вярнуцца «туды, адкуль прыехаў». За невыкананне загаду пагражалі «строгім пакараннем». Праз пару тыдняў пасля гэтага ў Нямеччыну была вывезена вялікая частка парафіян і настаўнікі альбертынскае школы, а царква закрыта.

Да гэтага часу не ўдалося атрымаць пэўных вестак, дзе і як загінуў а.Антон Неманцэвіч, хоць было зроблена ў гэтым кірунку нямала старанняў перад колішнім нямецкім урадам. Трэба здагадвацца, што а.Антон Неманцэвіч быў проста закатаваны ў падзямеллях менскага гестапа.

Ад часу адраджэнскае працы на ніве беларускага рэлігійнага жыцця а.Антон быў першым беларускім святаром, які ўвайшоў у рады іерархіі і на гэтым становішчы выявіў сваю веліч і бязмежную любоў да беларускага народа. Ён да канца выканаў свой абавязак і завяршыў сваё жыццё найбольшым выявам любові — аддаў сваё жыццё за сваю паству.

**а.Л.ГАРОШКА.**

---

1. Паслушніцтва (школа для паслушнікаў, якія рыхтуюцца стаць манахамі).
2. Уніяцкі святар.




***Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

Лірыка Баляслава Лесьмяна (1878—1937) адкрыла свету новае аблічча польскай літаратуры, яе бязмежнасць і глыбіню...

***Баляслаў ЛЕСЬМЯН***

* * *

У далёкім краі, напачатку вясны,
Так бацькам сваім мовілі жорстка сыны:
«Мы не можам трываць ужо вашую старасць!
І ў дамох нашых бачыць журботныя твары,
Ані крыхі ўжо шчасця няма ў нас, якую
Мы б маглі падзяліць у гадзіну благую,
І бракуе ўжо слёзаў, каб іхняю соллю
Вам заправіць нішчымнае едзіва з болю,
Смутку й жалю няма ўжо — няма нічагуткі!
Дык закончым падзел шчасця, слёзаў і смутку:
Вось вам нож — самі рэжце жыцця свайго нітку,
Бо на вашыя курчы глядзець будзе брыдка!»
Ў бляску свечкі сягоння мой позірк зляканы
Тое самае мовіў табе нечакана.

**У лёце**

З нетраў сполахаў хісткіх імчу да свабоды,
Ненавідзячы межы, на зверы шалёным,
У бясконцасць, што пеніцца ў грыве ягонай,
І тут звер натыркаецца на перашкоду,
Там, дзе царства блакіту мяжуе з імглою,
І ўстае на дыбкі! Знаю: Бог прада мною!
І, над прорвай завісшы ў застылым падскоку,
Я пачуў з вуснаў Богавых словы выроку:
«Я — рубеж твой! Чакаю цябе тут, прыблуду,
І ўжо дзе б ні скакаў ты — з табою я буду!»
Я не знаю мяжы! Не схілюся ў пакоры —
І свайго скакуна я ў бязмежжа прышпорыў
Бездань Богаву махам адным пераскочыў —
І зноў вольны! Зноў неба мне радуе вочы!
Ды калі я, падхоплены зорнай ракою,
У зляканні ўшчаперыўся ў грыву рукою —
Я не звера адчуў пад далоняй, а Бога!
Ці не з ім разам ў шале звінючым лячу я,
Бо адна нас у невараць вабіць дарога?
Гэта ён! Зноўку вырак ягоны я чую:
«Я рубеж твой! Чакаю цябе тут, прыблуду,
І ўжо дзе б ні скакаў ты — з табою я буду!»
Да тых слоў я ў нябёсах душой прывыкаю,
А мой лёт — без канца, а мой звер — не знікае!

**Пераклад з польскай Алега МІНКІНА.**
(Ганарар — у фонд рэдакцыі.)

# Мінуласці сучаснасць

*Той Адам Міцкевіч (1798—1855), якога мы ведаем паводле беларускіх перакладаў пачатку пяцідзесятых і шасцідзесятых гадоў, застаецца для нас недараскрытым аўтарам, а таму аддаленым. Наступіў час наблізіцца да навагрудскага генія і паспрабаваць далучыцца да эстэтыкі яго бачання глыбіняў псіхалогіі ў інтымных стасунках людзей. Да гэтага заклікае і абавязвае 200-годдзе паэта, якое чакае ўсіх нас на парозе трэцяга тысячагоддзя.*

***Адам МІЦКЕВІЧ***

III

Хай постаць простая, няхітрае і слова,
Ніщто цябе сярод усіх не вылучае,
А кожны рады чуць і пагладзець, якая:
Ты каралева, з сукні ж — дочка пастухова.

Звінелі ўчора песні, гучная размова,
Пыталі, як завецца гэтая ці тая,
Хто сыпле пахвалу, хто жарты падпускае,
А ты ўвайшла — маўчанне стала, як ахова.

Паміж пітва, калі на спеў ішлі з ахвотай,
Калі раскручвалася танцаў кола ў залі,
Раптоўна сціхлі ўсе, сябе пыталі ўпотай,

Ніхто не знаў, чаму задуманыя сталі,
Але паэт сказаў: «Анёл тут пералётаў».
Учэсцілі ўсе госця, ды не ўсе пазналі.

IV

## Спатканне ў гаі

— Ці ты? І што так позна? — Збіўся я з дарогі,
Між дрэў пад промнем месяца блукаю;
Ці сумавала ты? — Цябе даўно чакаю,
Спытай, ці думаю яшчэ аб чым хоць трохі!

— Дазволь узяць тваю руку і ўпасці ў ногі,
Дрыжыш! Чаму? — Я тут адна хаджу й не знаю,
Чаму баюся крыку птушак, шуму гаю;
Ах! Вінаватым, мусіць, нельга без трывогі.

— Мне ў твар, у вочы глянь; ніколі не бывала,
Каб зло з трывогаю глядзелі гэтак смела.
І ў чым ты вінавата? Мы гаворым мала,

Хоць поруч ты са мной, але далёка села.
З табой, анёл зямны, вяду сябе няўмела,
Нібыта ўжо анёлам ты нябесным стала.

XV

## Дзень добры

Дзень добры! Не буджу, любуюся здалёку!
Твой дух у рай паловаю ўзляцеў за хмары,
Паловаю застаўся ён на боскім твары,
Як сонца, напалову ў небе і ў аблоку.

Дзень добры! Ты ўздыхнула, бляск з'явіўся ў воку,
Дзень добры, ўжо святло вачам нясе пажары,
Нібы за благасць сну прасветленыя кары.
Дзень добры, сонца ў вокнах, я непадалёку.

Я нёс дзень добры, ды прад гожасцю тваёю
Адвагу страціў, хоць гадаць не кінуў спробы:
З ласкавым сэрцам ты ўстаеш і без хваробы?

Дзень добры, не даеш схіліцца над рукою,
Мне кажаш адысці, не быць перад табою,
Адзенься ж і выходзь — скажу табе дзень добры.

XVI

## Дабранач

Дабранач! Сёння больш не будзем забаўляцца,
Хай прыгарнуць анёлак сну цябе захоча,
Дабранач, хай твае ад слёз прасохнуць вочы,
Няхай пачне спакоем сэрца запаўняцца.

Дабранач, хай гук ціхі будзе заставацца
Ад кожнай хвілі, моўленай са мной ахвоча,
І граць табе, калі ж пагасне думка ўночы,
Хай вобраз мой у сне пачне табе з'яўляцца.

Дабранач, глянь ты з развітальнаю мінутай,
Дазволь мне твар — Дабранач! Слуг паклікаць мала?
Дай грудзі ўцалаваць — Дабранач, зашмаргнутай,

Дабранач, уцякла ты, за дзвярмі прапала.
Дабранач, цераз клямку ўжо табе, замкнутай!
Дабранач, паўтараў бы я, каб ты не спала.

**Пераклаў Уладзімір МАРХЕЛЬ.**

***Творчасць нашых чытачоў***

***Аліна Дзямкоўская,***
***вучаніца 8 класа гімназіі № 199 г.Менска***

## ГОРАД

***Быў час і горад мой квітнеў:***
***Людскія твары ўсмешкаю заліты,***
***Птушыны гоман над зямлёй звінеў,***
***І сэрца дзверы ўсім былі адкрыты.***
***Што слова — беларускае; што постаць —***
***То гордая: я беларус — глядзі!***
***Не сорамна за мову — мы не рускія!***
***Прамень свабоды роўна ўсім свяціў...***
***Але...***
***Глядзіце, што з ім здарылася зараз:***
***Галодных поўны ён і жабракоў.***
***Чарга за хлебам — тут жа, побач, поплеч... —***
***Чарга ў магілу — ў колькі раз даўжэй!***
***І наша мова ў тым гурце таўчэцца...***
***Не па сваёй ахвоце — людзі завялі.***
***І кроў народа нашага ліецца***
***На раны развАрочанай зямлі...***
***І зніклі людзі, твары і усмешкі,***
***А засталіся нелюдзі і боль...***
***Каменнем ужо пакрыліся пралескі,***
***І горад родны паглынуў агонь...***
***Агонь далярны, нежывы, халодны***
***Бяздумна рушыць душы і дамы...***
***О, як балюча, сумна і пакутна***
***Глядзець і чуць, як паміраеш ты,***
***Мой Мінск, мой горад, і мая Радзіма!***

***Вечарыны***

# Памяці Міхася ЧАВУСКАГА

*У чытальнай зале Жлобінскай цэнтральнай раённай бібліятэкі агульнымі намаганнямі бібліятэчных работнікаў і раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы (ТБМ) была праведзена літаратурная вечарына, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння беларускага пісьменніка і журналіста, ураджэнца Жлобіншчыны, Міхася Чавускага (1904—1984). Пра жыццёвы і творчы шлях земляка прысутным расказаў старшыня раённай арганізацыі ТБМ Мікалай Шуканаў. Вядучыя вечарыны супрацоўніцы бібліятэкі Іна Палтаран і Ларыса Фаміна пацешылі гледачоў пастаноўкай сатырычнай сцэны па матывах твораў Міхася Чавускага.*

*Вечарына, якая праходзіла ў сяброўскай атмасферы, за кубкам чаю, канешне, не абмежавалася строга тэматычнымі рамкамі. Свае новыя вершы прачыталі жлобінскія паэты Марыя Смірнова, Павел Луд, Іосіф Рынейскі. Аб важнасці захоўвання і развіцця лепшых духоўных традыцый беларускага народа гаварылі дэпутат гарсавета Пётр Мірашнічэнка, пастар Жлобінскай абшчыны хрысціян-евангелістаў Леанід Сярэдзіч, метадыст гарана Валянціна Давыдава, пенсіянер Мікалай Канаш, госць з Менска, старшыня Арганізацыйнага камітэта Патрыятычнага руху «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў», падпалкоўнік запасу Мікалай Статкевіч і іншыя.*

**М.Ш.**

***Выставы***

# «Як сімвал, як заклік, як ідэя»

Напрыканцы снежня мінулага года ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча (Траецкае прадмесце г.Менска) адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы, прысвечанай 103-м угодкам з дня нараджэння паэта. У яе экспазіцыі творы розных відаў выяўленчага мастацтва (скульптура, жывапіс, графіка, кераміка, разьба па дрэве), створаныя як у традыцыйнай рэалістычнай манеры (П.Масленікаў «Ракуцёўшчына», «Нараджэнне паэта»; М.Манансзон «Змітрок Бядуля і Максім Багдановіч у 1916 г. у Мінску» і інш.), так і ў стылі мадэрн, для якога характэрна выкарыстанне сімвалічных вобразаў, разлічаных на асацыятыўнае ўспрыманне (Э.Агуновіч «Маці родная, маці-краіна», А.Марачкін «Выйду белая з цёмнай вады я», А.Зіменка «Страцім лебедзь», Ю.Гаўрын «Памяці Багдановіча» і інш.). У ліку найбольш цікавых і арыгінальных работ, акрамя вышэй згаданых, скульптура А.Анікейчыка «Смутак па радзіме», сямейныя партрэты Багдановічаў і партрэты паэта, напісаныя А.Ксяндзовым, У.Сулкоўскім, Ф.Янушкевічам, Ю.Герасіменкам, В.Маркаўцом, В.Ціханавым. Вялікае ўражанне пакідаюць творы, прысвечаныя вытлумачэнню творчасці Багдановіча, іх зместу і пафасу. У якасці прыкладу прыгадаю серыю ілюстрацый да ягоных твораў А.Пашкевіча, трыпціх П.Семчанкі «Страцім-лебедзь», палатно Лойкі.

Многія творы экспануюцца ўпершыню і ў большасці выпадкаў падораны Літаратурнаму музею, які на сучасны момант ужо налічвае каля двухсот адзінак твораў выяўленчага мастацтва. Адзначу, што гэта ўжо трэцяя выстава, прысвечаная творчасці славутага песняра. Першая адбылася да 90-годдзя з дня нараджэння паэта, другая — да стагоддзя з дня яго нараджэння. Заказныя, фінансаваныя дзяржавай, яны аднак узрушылі ўсю Беларусь у літаральным сэнсе гэтага слова і задалі работу як прафесійным, так і самадзейным мастакам, абудзіўшы цікавасць да асобы паэта і ягонай творчасці. «Гэтыя выставы, — сказаў дырэктар музея А.Бяляцкі, — паслужылі адраджэнню нацыянальнай ідэі. І гэта ў час, калі яна была пад вялікім уціскам. Звяртаючыся да вобраза Багдановіча, мастакі звярталіся тым самым да мастацкай тэматыкі, выказвалі свае адносіны да беларускай культуры».

Адкрыў выставу міністр культуры і друку А.Бутэвіч, які, у прыватнасці, сказаў: «Сёння тут сабраліся прыхільнікі таленту М.Багдановіча, усе тыя, каму баліць і хто хоча вырашаць праблемы нашай маладой суверэннай дзяржавы. Бо калі б мы ўсе з такой апантанасцю, як жыў і тварыў паэт, адносіліся сёння да вопыту дзяржавы, да вопыту нашага народа, наколькі б многія праблемы былі працейшымі, наколькі б быў больш згуртаваны і аб'яднаны сёння наш народ... Я думаю, што ўсё-такі сімвал Багдановіча, яго вобраз, яго апантанасць павінны ўздзейнічаць на нас. Мы павінны зрабіць яго тым апосталам нашага беларускага духу, які дае спадзяванні тым, хто не верыць, мабілізуе дух тых, хто хоча рабіць добрыя справы. Няхай кожны з нас зробіць хаця б адну добрую справу! І калі мы кажам, што маем дом Багдановіча, то мы маем месца, дзе можа гэты дух спеліцца, умацоўвацца і дзе могуць быць добрыя справы пад імем, пад знакам Багдановіча. Мы прывыклі, што гістарычныя постаці здаюцца нам такімі сталымі па ўзросту, такімі святымі іконамі, на якія можна толькі маліцца. А ў асобе Багдановіча мы маем маладога чалавека, які столькі здолеў зрабіць за свае маладыя гады, што сённяшнім нам ох як трэба працаваць, каб асэнсаваць яго работу, стаць годнымі яго жыцця, яго творчасці. Адным словам, Багдановіч у нас, беларусаў, яшчэ павінен заняць сваё годнае месца, і мы павінны гэтаму паспрыяць. Я хачу выказаць спадзяванне, што Максім Багдановіч будзе заўжды прысутнічаць у нашых душах як сімвал, як заклік, як ідэя, да якой трэба імкнуцца».

Затым слова ўзяў мастак У.Стэльмашонак, які расказаў пра клопаты мастакоў, захопленых ідэяй адбудаваць на старым фундаменце ў Траецкім прадмесці дом, у якім нарадзіўся паэт. Высакароднай справе паспрыяла спадарыня Шаўчук Валянціна Сцяпанаўна, кіраўнік цэнтра па рэстаўрацыі мастацкай архітэктуры (была прадстаўлена прысутным), якая ўкладвае свае грошы і грошы іншых спонсараў у рэстаўрацыю дома Багдановіча і аднаўленне мемарыяльнай кватэры. Да гэтай ідэі добра ставяцца і ўрад, і Менгарвыканкам, тым не менш схіл на беразе Свіслачы, дзе рос Максім, ужо падзелены — паміж Амерыкай (пад будаўніцтва офісаў) і Індыяй (пад будаўніцтва пасольства), што ніяк не спрыяе святой справе. І ўсё ж будзем спадзявацца, што дом Багдановіча будзе адбудаваны. А сёння я запрашаю спадароў і спадарынь наведаць выставу ў Літаратурным музеі нашага песняра, той куточак, які дасць магчымасць судакрануцца з духоўным светам, надзеямі, спадзяваннямі і ідэаламі вялікага сына Беларусі.

**Ірына КРЭНЬ.**

